

забаўляльна-навучальны часопіс для дзетак

# ГАРБУЗІК



№ 4



Казка
“Мышы ляцяць на Марс”

Гульня
“Раскідач у хаце”

Вясёлыя вершы

Беларуска-англійскі слоўнік з малюнкамі

с. 4–7

## КОСМАС



заданні ЧЫТАЕМ казкі МАЛЮЕМ самаробкі забаўкі ЛІЧЫМ крыжаванкі ГУЛЯЕМ вершы



Вывучаем

# Вясёлыя вершыкі

***Рыфмаванкі для дзетак з англійскага фальклору***

## Той, хто...

Нарадзіўся ў **панядзелак** —
Будзе белы што кудзелак,
У **аўторак** — будзе годны,
Ў **сераду** — бядак гаротны,
У **чацвер** — туляга вечны,
Той, хто ў **пятніцу** — сардэчны.
Хто ў **суботу** — той руплівы,
У **нядзелечку** — шчаслівы.




*Абвядзі літары па кропках*
*Спалучы дні з адпаведнымі лічбамі*



## Падпасак

Гэй, малы падпасак,
У ражок зайграй!
Статак лезе ў шкоду,
Ты ж пільнуй-зважай!
І дзе гэты хлопчык,
Што авец глядзіць?
Прыхаваўся ў сене
Ды салодка спіць.
Хто пабудзіць хлопца,
Каб жывёлу гнаў?
Вой, не я — баюся,
Каб раўсці не стаў!





## Падсвінкі

Гэты падсвінак уцёк на гулянку,
Гэты падсвінак за печку схаваўся,
Гэты падсвінак сцярэбіў мачанку,
Гэты падсвінак галодны застаўся,
Гэты падсвінак енчыць: «Рох-рох,
Хачу я дадому, вох!»

## Загадкі

*Напішы адказы на загадкі ў квадратах*

У пакоі мармуровым,
Ў тонкім кокане шаўковым,
У вадзе празрыста-чыстай —
Яблык жоўта-залацісты.
Хоць пакой не мае дзвераў,
Яблык лёгка скрасці. Верыш?



_ _ _ А

Хадзіў я ў лес і там набыў,
Прысеў разглядзець ў полі.
Прынёс дадому, не згубіў,
Бо адшукаць не здолеў.



С _ _ _ _ _ А

Я круглы, нібы яблык,
Пляскаты, як лісточак,
І я зусім не бачу,
Хаця і маю вочы.




_ _ _ і _

*З англійскай пераклалі*
*Ірына Бурносенка, Юрка Штукар*

Г. Арсайла

# Выходзім у адкрыты космас!

*Мы жывем на планеце Зямля. Зямля разам з іншымі планетамі — Меркурыем, Венерай, Марсам, Юпітэрам, Сатурнам, Уранам, Нептунам — круціцца вакол Сонца. Усе разам яны ўтвараюць Сонечную сістэму.*

## Наш спадарожнік

Такім чынам, Зямля — спадарожнік Сонца. У Зямлі таксама ёсць спадарожнік — Месяц. Нават без тэлескопа можна разгледзець яго паверхню. Тыя плямы, якія здаюцца морамі, насамрэч — раўніны. На Месяцы няма вады, няма паветра і жыцця. Тэмпература там невыносная для чалавека: ад мінус 170⁰ С уначы да плюс 130⁰ С удзень! Неба чорнае нават удзень, бо няма атмасферы, якая б стварала цудоўны блакітны колер, як у нашага неба.

Яшчэ на Месяцы ёсць кратэры розных памераў — ад некалькіх метраў да дзясяткаў кіламетраў. Гэта яміны, што засталіся ад падзення астэроідаў і метэарытаў. Некаторыя з іх носяць прозвішчы вядомых навукоўцаў, якія нарадзіліся на Беларусі: Пачобут, Цэраскі, Ціхаў.

## Чатыры назвы Месяца

У розныя дні зямны спадарожнік неаднолькава бачны з Зямлі. Нашыя продкі называлі Месяц у залежнасці ад «квадры» — перыяду яго бачнасці. Маладзік — малады Месяц, падобны да сярпа. Поўня — круглая, поўная. Сход — паўкруг. Ветах — таксама серп, але выгінаецца ўжо ў іншы бок (нібы літара С).

*Месяц у розных фазах*





Нашая Зямля (і ўсе мы разам з ёю) ляціць вакол Сонца з хуткасцю 30 кіламетраў за секунду. Вакол Сонца яна абарочваецца за 365 дзён, гэта значыць за год. А ўся наша Сонечная сістэма ляціць у Галактыцы з хуткасцю 220 кіламетраў за секунду. Такім чынам, пакуль ты прачытаеш старонку «Гарбузіка», ты праляціш некалькі тысяч кіламетраў!




*Планеты Сонечнай сістэмы (суадносна іх памераў)*

## Куды вядзе Птушыная Дарога?

У ясны месяцовы вечар паглядзі на зорнае неба. Ты ўбачыш мноства зорак, сярод якіх ёсць і вельмі яркія, і амаль нябачныя. Некаторыя з іх людзі аб'ядналі ўяўнымі лініямі і назвалі сузор'ямі. Усе сузор'і маюць назвы, напрыклад: «Вялікая Мядзведзіца», «Малая Мядзведзіца», «Блізняты», «Цялец», «Дэльфін», «Рыбы»... А выразная белая паласа на цёмным небе — гэта Млечны шлях (назва, якая прыйшла да нас ад старажытных грэкаў). Беларусы называлі яго Птушынай Дарогай. Продкі верылі, нібыта душы памерлых робяцца птушкамі і па гэтай зорнай дарозе адлятаюць у вырай.

*Сузор'е Малой Мядзведзіцы на старажытных мапах зорнага неба (Палярная зорка абведзена чырвоным колерам)*




## Зорка-компас

Самая яркая зорка ў сузор'і Малой Мядзведзіцы добра вядомая заўзятым турыстам. Ад іншых зорак яна адрозніваецца тым, што не змяняе свайго месца на небе. Палярная зорка заўжды паказвае на поўнач. Калі ты станеш да яе тварам, спераду ў цябе будзе поўнач, ззаду — поўдзень, злева — захад, а справа — усход. Запомні гэта, і ты не заблукаеш у падарожжы нават без компаса!

*Малюнкі з сайтаў spacenasa.com, midnightkite.com*

## Чалавек у космасе

Першым чалавекам, які ўбачыў Зямлю з космасу, быў Юры Гагарын. Адбылося гэта 12 красавіка 1961 года. З таго часу 12 красавіка адзначаюць як Дзень касманаўтыкі.





Мы з табой можам ганарыцца: першай касманаўткай стала нашая зямлячка — Валянціна Церашкова. Яе матуля родам з вёскі Верамееўшчына на Віцебшчыне, тата — з-пад Магілёва. Першая касмічная жанчына памятае і любіць сваю родную беларускую мову.

# Міжпланетная суперзадача

Ці зможаш ты адшукаць назвы васьмі планет Сонечнай сістэмы?

***Увага!*** Назвы планет могуць перакрыжоўвацца.



МЕРКУРЫЙ
ВЕНЕРА
ЗЯМЛЯ
МАРС
ЮПІТЭР
САТУРН
УРАН
НЕПТУН

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| М | Т | В | І | В | В | А | У | Ю | Т |
| С | А | Э | Ц | Я | Е | Ф | Ч | П | К |
| Й | У | Р | Ы | І | Н | Ў | У | І | Б |
| К | Е | З | С | Ж | Е | Ч | Ь | Т | С |
| М | Е | Р | К | У | Р | Ы | Й | Э | Н |
| В | Т | І | А | Д | А | М | Я | Р | Е |
| С | А | Т | У | Р | Н | Л | Ў | Н | П |
| Г | Ш | П | Р | Э | М | З | А | Х | Т |
| В | Р | Й | Ю | Я | С | Р | Ч | Ж | У |
| З | І | Х | З | Ы | У | Ф | І | Н | Н |

## Частуем касмічных гасцей



Да Юрася завіталі іншапланетнікі. Хлопчык частаваў іх рознымі зямнымі прысмакамі. Якую прысмаку найбольш упадабалі касмічныя госці?




## Сябры планет

Вакол васьмі планет Сонечнай сістэмы круціцца 172 спадарожніка. Але ў Венеры і Меркурыя іх няма. У Зямлі адзін — Месяц, у Марса — два. У Юпітэра на 5 спадарожнікаў больш, чым у Сатурна, а разам яны маюць іх 129. Вакол Урана круціцца на 40 спадарожнікаў менш, чым вакол Юпітэра. Астатнія маюць арбіты вакол Нептуна.

Падлічы, колькі спадарожнікаў маюць планеты Юпітэр, Сатурн, Уран і Нептун?

Юпітэр — 67, Сатурн — 62, Уран — 27, Нептун — 13

## Вакол Марса

Адгадай рэбусы і даведайся назовы спадарожнікаў Марса.








# Госці з іншай планеты!



***Твае сябры, напэўна, ніколі не бачылі касмічную талерку? Цяпер ты можаш пазнаёміць іх з вясёлымі і цікаўнымі іншапланетнікамі!***



### *Табе спатрэбяцца:*

- дзве пластыкавыя талеркі;
- пальчатка;
- акрылавыя фарбы, пэндзлікі;
- дроцік ці счэпкі;
- нажніцы, клей;
- пластыкавыя ці папяровыя вочкі;
- 50 см вяровачкі для «антэнак».





**1.** З пальчаткі майструем іншапланетнікаў. На канцы кожнага «пальчыка» з дапамогай іголкі робім антэнкі з вяровачак. Наклейваем вочкі.



**2.** Акрылавымі фарбамі размалёўваем пластыкавыя талеркі. У дне ніжняй талеркі выразаем авальную адтуліну — акурат каб пралезла рука з «іншапланетнікамі». Як фарба высахне, злучаем дзве талеркі дроцікам.



**3.** ***Вітаем касмічных гасцей!***

*На «талерцы» лятялі Настасся і Паліна Грынчанкі*

Стварыла Святлана Віктор

# Раскідач у хаце

Побач з малюнкам — рэчы, якія параскідаў гарэзлівы сабачка. Дапамажы сабачку прыбрацца да вяртання гаспадароў: знайдзі ўсе гэтыя прадметы на малюнку.







# Тузін спосабаў запомніць лета

1. Зрабіць і запусціць цмока-летаўца
2. Пабегаць басанож па траве
3. Павеславаць альбо паставіць ветразь на чоўне
4. Даехаць на ровары да возера, поля, узлеску...
5. Сарваць свежы агурок ды з'есці нямытым
6. Пашукаць купальскую папараць-кветку
7. Схаваць скарб і намаляваць сябрам мапу
8. Прачытаць цікавую кніжку
9. Напісаць ліст сябру з аповедам пра свае прыгоды
10. Скласці заплечнік для паходу з начоўкай
11. Знайсці белы грыб ды высушыць, каб узімку быў смачны суп
12. Дастаць з дна рэчкі, возера ці мора каляровы каменьчык

Чытаем

*Паліна Грынчанка*

# Анэля і чарвяк

Сарвала Анэля з дрэва . Цёплы, жоўты. Аблізнулася.

Адкусіла — ажно там !

— Фу-у! — скрывілася Анэля і закінула яблык за .

— Мама, цяпер я буду есці толькі . У іх не бывае чарвякоў.

Здзівілася маці:

— Што такое? Няўжо цябе пакрыўдзіў?

— Не... Проста ён брыдкі!

— Няма брыдкіх істотаў, дачушка. Усіх стварыла прырода. Усе прыгожыя.

Не верыць Анэля:

— Вось мілыя, так і хочацца палашчыць. А хто захоча ўзяць у рукі ?

Мама трошкі падумала.

— Анэлька, памятаеш , што ўвечары спявае на ўзлеску?

— Салавей!

— Так. Ягоныя нараджаюцца сляпымі, без . Цяжка назваць іх прыгожымі. І толькі што народжаных кацянятаў таксама. І вусеняў...

— Вусеняў? Ага, я зразумела! Вусень — гэта ж дзіця !

Яно вырасце і будзе лятаць! Дык і вусень прыгожы, проста маленькі яшчэ...

# Што такое ВЯСЁЛКА?

*Сонечныя промні падаюцца табе светлымі, але насамрэч яны спалучаюцца з розных колераў: чырвонага, аранжавага, жоўтага, зялёнага, блакітнага, сіняга і фіялетавага. Калі промні праходзяць скрозь кроплі дажджу, на небе з'яўляецца вясёлка.*

Кроплі дажджу працуюць нібы прызмы. Яны раскладаюць святло на колеры, прапускаюць яго пад розным ухілам ды ўтвараюць каляровую паласу — спектр. Вясёлка — гэта і ёсць велізарны выгнуты спектр. Але для яе з'яўлення павінны выконвацца тры ўмовы: каб ішоў дождж; каб свяціла, але невысока, сонца; каб глядач быў паміж дажджом і сонцам.



А ці ведаеш ты, што вясёлка можа перакуліцца? Такая незвычайная вясёлка ўтвараецца, калі святло праходзіць не цераз кроплі вады, а праз густую заслону маленькіх крышталікаў лёду ў небе. Некаторыя называюць яе «вясёлкавая ўсмешка».

Ці можа вясёлка з'явіцца ўначы? Так! Гэта вельмі рэдкі від вясёлак, якія можна пабачыць толькі пры яркай поўні. Яе святло павінна адлюстравацца ў начным дажджы ці вадаспадзе, а назіральніку трэба стаяць паміж дажджом і Месяцам.



*Алена Цярашкова*

# The words

### *Беларуска-англійскі вершаваны слоўнік для малодшага ўзросту (частка 1)*



Памерам ледзь не з рэпу
Чырвоны **яблык** — ***apple***



Закаціўся ў кут пад стол
Мой вясёлы **мячык** — ***ball***



На вакзале трэба час,
Каб знайсці **аўтобус** — ***bus***



На градзе ў зямлі кватэра,
А жыве там **морква** — ***carrot***

*Малявала Вольга Раманюк*



Зерне падзяўбці на ток
Выйшаў важны **певень** — ***cock***



Ляльку кінулі на дол.
Горка плача **лялька** — ***doll***



Вязе ў вазочку Даньку
Пацешны **вослік** — ***donkey***



Кідаеш пясок? Спыняй!
Запарушыш **вока** — ***eye***



Гэй, Адась! Да пчол не лезь,
Пакусаюць **тварык** — ***face***

*Віялета Богдан*

# Мышы ляцяць на Марс!



*Маляваў Уладзімір Богдан*

Космас, калі глядзець у ілюмінатар з ракеты, чорны і бясконцы. Праўда, паўсюль мільгацяць зоркі. Але вельмі далёкія: без тэлескопа і не разбярэш, зоркі гэта ці планеты. А можа, хвастатая камета ляціць да ракеты і трэба пільна змяняць курс, каб не сутыкнуцца...

Вось так ляцела сабе адна ракета, ды глядзела з яе ілюмінатара адна істота. Стаяла, прыціскаючыся да круглага акенца… пысай! Чорнай, кудлатай і вастраносай. З вочкамі-пацеркамі ды доўгімі вусамі, якія ўвесь час варушыліся: вынюхвалі, ці слушным курсам ідзе ракета. Пыса належала мышцы Рысі.

Да суседняга ілюмінатара прыціснулася яшчэ адна пыса, белая. Другую мышку клікалі Шусяй.

— Ну, што там? — нецярпліва спытала Шуся.

— Ракета ідзе належным маршрутам, — адрапартавала Рыся. — Праз шэсць месяцаў і тры дні мы будзем на Марсе.

— Урра! — узрадавалася Шуся, — Марррс набліжаецца!

Памятаеце, напачатку я казала пра пагрозлівую хвастатую камету? Яна насамрэч існавала і ляцела наўпрост да мышынай ракеты! І аднойчы яе вынюхаў Рысін нос:

— У нас праблемы! — затрымцела Рыся. — Да нас рухаецца нябеснае цела! Экспедыцыя пад пагрозай!

— Што рабіць?! — залямантавала Шуся.

— Надышоў час скарыстаць ЯЕ! — паведаміла Рыся.

— Няўжо мы скарыстаемся Вялікай Хапалкай? — дрыготкім голасам прапішчэла Шуся. — Мы ж не ведаем, што яна робіць са сваімі ахвярамі!

— Але інакш камета знішчыць ракету! Запускаем праграму!

Вялікая Хапалка загудзела і выпрастала шчупальцы. Тыя былі невялікія, але працавалі, як моцны магніт. Шчупальцы зрабілі сваю працу і вельмі хутка прыцягнулі да сябе камету.

І тут… Камета пачала выдзірацца і крычаць:

— Пусціце, пусціце! Я абміну вашу ракету і не буду яе чапаць!

Па шчырасці, мышы былі не супраць вызваліць паланянку — але не ведалі як. І гаротную камету са скавытаннем засмактала ў адмысловы адсек ракеты.

Шуся з Рысяй яшчэ крыху патрымцелі. Пасля Рыся прапанавала:

— Ну што, пайду зірну, што сталася з каметай?

— Не хадзі, — схапілася за сяброўку Шуся. — А раптам Хапалка ператварыла яе ў касмічную пачварыну?

— А раптам у гіганцкі кавалак сыру? — запярэчыла Рыся.

Яна апранула скафандр са шлемам і зайшла ў адсек, куды Хапалка засмактала камету. І… весела гукнула Шусю:

— Кінь дрыжэць, паглядзі!



— Усё ж такі сыр! — узрадавалася Шуся і пабегла.

Але там быў не сыр, а... маленькая камета! Зусім маленечкая, меней за мышку. І вельмі ласкавая: яна нештаваркатала і лашчылася да Рысі.

— Вось табе і Хапа-алка! — уражана працягнула Шуся. — І што з гэтай каметкай цяпер рабіць?

На шчасце, мышы ўзгадалі пра свой вялікі акварыум. Рыся пасадзіла туды каметку, а Шуся прычыніла яе зверху шкляным вечкам. Камета, здаецца, была не супраць: яна скруцілася ў клубок на дне акварыума і салодка засапла.

Мышы яшчэ доўга глядзелі на яе. Яны цешыліся, што выпрабаванне так добра скончылася. І што далей яны паляцяць, паглядаючы на акварыум, у якім чароўна зіхціць сапраўдная, хай сабе і маленькая, камета.

Гарбузік
забаўляльна-навучальны часопіс для дзетак
harbuzik.by
Нашыя дзеткі
dzietki.org

Нумар падрыхтавалі:
рэдактары *Вольга Мазурава*,
*Паліна Грынчанка*
кампутарная вёрстка і дызайн
*Ірына Бурносенка*
пры дапамозе *Вольгі Раманюк*,
*Алены Церашковай*,
*Віялеты Богдан*,
*Святланы Віктор*


## Касмічная крыжаванка

Разгадай крыжаванку — і па вертыкалі прачытаеш слова, якім беларусы называюць метэор.




1. Свеціць у начным небе.
2. Так называецца акно ў касмічным караблі.
3. Беларуская назва маладога Месяца.
4. Час, калі можна ўбачыць космас.
5. Першая планета ад Сонца.
6. Нябеснае цела, якое мы бачым як агністы шар з хвастом.


Спраўдзіць адказы на рэбусы і галаваломкі, а таксама далучыцца да суполкі стваральнікаў часопіса вы можаце на сайце *dzietki.org*. Матэрыялы ды прапановы дасылайце на электронны адрас: *harbuzik.by@gmail.com*.


чамучка

## Чаму зоркі мігцяць?

*Таму што мы глядзім на іх праз атмасферу Зямлі, якая ўвесь час рухаецца і замінае воку пабачыць зорнае зіхаценне як яно ёсць. Насамрэч зоркі ззяюць спакойным святлом.*

Зладзім эксперымент. Для гэтага возьмем кавалак алюмініевай фольгі, кардон, слоік і ліхтарык.

Выражам з кардону круг памерам прыкладна з дно слоіка. Таксама выражам з фольгі маленькія зоркі і налепім (ці проста пакладзем) іх на кардонавы круг.



Нальем у слоік вады, напоўніўшы яго на дзве траціны. Паставім слоік на кардонавы круг з зоркамі і згасім святло ў пакоі.

Калі пасвяціць ліхтарыкам над слоікам і пастукаць па ім, можна пабачыць, што адбываецца з зоркамі з фольгі.